РАССЫЛКА #2

20 КАСТРЫЧНІКА, 2020

# КУЛЬТУРНЫ СУПРАЦІЎ У БЕЛАРУСІ



БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ

БЕЛАРУСКІ ПЭН-ЦЭНТР


ДЕТСКАЯ
ПЛОЩ
Фота: Белсат

# 1. АДКРЫТЫ ЛІСТ ДЗЕЯЧАЎ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ

*Дзеячы і дзяячкі культуры і мастацтва* працягваюць падпісваць адкрыты ліст, у якім яны асуджаюць факты парушэння законаў Рэспублікі Беларусь, гвалт над мірнымі грамадзянамі з боку сілавых структур і фальсіфікацыю вынікаў выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і патрабуюць спыніць рэпрэсіі, якія ахапілі ўсю краіну, у тым ліку сферу культуры.

На сёння яго падпісала больш за 1500 чалавек, ліст адкрыты да падпісання.

Поўны тэкст ліста і спіс падпісантаў

# 2. ЗАЯВА БЕЛАРУСКАГА ФОНДА КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ

## У СУВЯЗІ З ЗАПЛАНАВАНЫМІ КАНЦЭРТАМІ АНСАМБЛЯ "ХАРОШКІ" НА СЦЭНЕ КУПАЛАЎСКАГА ТЭАТРА

Мы вельмі заклапочаныя сітуацыяй вакол паважанага і вядомага на ўвесь свет ансамбля "*Харошкі*", які пагадзіўся выступаць на сцэне Купалаўскага тэатра 15 і 16 кастрычніка.

Мы заклікаем удзельнікаў "Харошак" і асабіста Народную артыстку Беларусі *Валянціну Гаявую* адмовіцца ад гэтага выступу і такім чынам праявіць салідарнасць з купалаўцамі, звольненым дырыжорам свайго калектыву і ўсімі дзеячамі культуры, пацярпелымі з-за сваіх перакананняў.

Чытайце поўны тэкст заявы па спасылцы.

# 3. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ, ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ,ЗВАЛЬНЕННЕ ЗА ПОГЛЯДЫ



13 кастрычніка, пасля сядзячага пратэсту супрацоўнікаў Акадэміі навук супраць гвалтоўнага разгону акцый пратэсту напярэдадні, затрымалі антраполага *Уладзіміра Шыпілу*. Ён атрымаў 7 сутак арышту.
Са словаў супрацоўніка Інстытуту гісторыі, кіраўніцтва інстытуту і Акадэміі навук незадаволенае акцыямі пратэсту. Навукоўцам пагражаюць, што не працягнуць кантракты.

13 кастрычніка быў затрыманы ***Раман Абрамчук*** – гід-перакладчык, пісьменнік і публіцыст, лідэр гурта «Гарадзкі вал». 15 кастрычніка суд прысудзіў Раману 10 сутак.
Жонка Рамана, ***Лізавета Строцава***, распавяла пра ўмовы, у якіх утрымліваецца Раман:
*“З ночы аўторка Рома знаходзіцца ў карцары. Карцар аднамесны, зняволеных у ім трое. Без ежы і амаль без вады. У туалеце таксама няма вады. Яны вымушаныя былі спаць на бетоннай падлозе”.*
У камеры бракуе паветра, праз што Раман страчваў прытомнасць. Ад блізкіх не прынялі перадачу з неабходнымі рэчамі, лінзамі і растворам для іх, хаця ў прысутнасці фельчара кіраўнік ЦІП Акрэсціна даў на гэта дазвол.
Пасля затрымання Рамана збівалі: па галаве, па носе. На руках засталіся раны ад будаўнічых сцяжкаў.



***Данііл Арыянаў***, паэт і літаратурны крытык, 13 кастрычніка ішоў на працу з бел-чырвона-белым сцягам. Як толькі ён зайшоў у рэдакцыю, з боку вуліцы Захарава ў Мінску за ім ўварваліся два чалавекі ў зялёным і затрымалі.
14 кастрычніка суд прызначыў Даніілу 15 сутак арышту.



Шоўмэна і тэлевядоўцу ***Дзмітрыя Кахно*** зноў судзілі. За «непадпарадкаванне службовай асобе», якое ён нібыта здзейсніў 11 верасня, суд даў яму штраф у 675 беларускіх рублёў.




15 кастрычніка гомельская мастачка ***Марыя Тульжанкова***, якая за тыдзень да гэтага вярнулася пасля навучання ў Польшчы, была пакараная 15 суткамі арышту за ўдзел у несанкцыянаваным шэсці. Спачатку Марыі пагражала крымінальная справа за "масавыя беспарадкі". Верагодна, яе арышт звязаны з плакатам "Сашы больш не наліваць", з якім яна выйшла на пратэст.

Выкладчык Універсітэта культуры ***Дзмітрый Матуйза***, якога звальняюць праз яго грамадзянскую пазіцыю, запісаў відэа зварот для студэнтаў. Да 30 кастрычніка Дзмітрый яшчэ працуе выкладчыкам. Ён ініцыяваў збор подпісаў пад петыцыяй да кіраўніцтва ўніверсітэта з просьбай працягнуць яму кантракт.

Дырыжор ансамбля "***Харошкі***" ***Іван Ерамеевіч***, які падпісаўся пад адкрытым лістом дзеячаў культуры супраць фальсыфікацыі выбараў і гвалту сілавікоў і запісаў відэа зварот беларускіх музыкаў, 15 кастрычніка быў звольнены са сваёй пасады.
Раней аркестр ансамбля адмовіўся граць на выступах у Купалаўскім тэатры, запланаваных на 15 і 16 кастрычніка.
*"Вашае ідэалагічнае меркаванне не супадае з дзяржаўным"*, – так Івану Ерамеевічу патлумачылі прычыну звальнення.

16-гадовую *Лізавету Вішняк* выклікаюць у Цэнтральны РУУС Менску па адміністратыўнай справе паводле арт. 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве). Дзяўчына хадзіла на нядзельныя акцыі пратэсту разам з сям’ёй, але позву атрымала толькі яна. Бацькі не выключаюць, што дачка прыцягнула ўвагу міліцыі праз сваю песню, прысвечаную апошнім падзеям у Беларусі.
*“Мне вельмі шкада свой народ: колькі нас прыгняталі, колькі забівалі, колькі людзей аддалі сваё жыццё, каб мы проста маглі размаўляць на роднай мове. І вось цяпер адбываюцца такія жахлівыя падзеі толькі таму, што адзін чалавек ухапіўся за ўладу. Я проста не магла заставацца абыякавай і напісала песню. Я ганаруся тым, што раблю”*, – распавяла Лізавета belsat.eu.

*Аляксея Бацюкова*, дырэктара магілёўскага Музея гісторыі і найвядомейшага ў Магілёве гісторыка, 16 кастрычніка судзілі за ўдзел у мірных мітынгах і шэсцях у Магілёве за жнівень і верасень.
Раніцай суд Ленінскага раёна прысудзіў яму штраф 10 базавых (270 рублёў), а ўвечары суд Кастрычніцкага раёна дадаў яшчэ адзін штраф памерам 13 базавых (351 рубель).

*Андрэй і Алеся Бардухаевы-Арлы*, акторы і заснавальнікі гомельскага *“Team Theatre”*, з 16 кастрычніка звольненыя з Палаца культуры “Беліцкі”, на базе якога працаваў тэатр. Прычына – пасты ў сацыяльных сетках “ТІМ-тэатра”.
Андрэй і Алеся займаліся сацыяльнымі праектамі, ставілі інклюзіўныя спектаклі, працавалі з невідушчымі людзьмі, інвалідамі па слыху, людзьмі з ДЦП, стварылі фонд “Разам Тут”. У 2016 годзе у Андрэя і Алесі ўжо быў канфлікт з гомельскімі ідэолагамі.
*“Мы прайшлі ўсё гэта чатыры гады таму і ведаем, чым усё скончыцца. Мы будзем спадзявацца толькі на людзей, якія нас ведаюць, якія за чатыры гады зразумелі, чым мы займаемся і дзеля чаго працуем. Толькі на людзей. На дзяржаву няма ніякага спадзеву. Лапкі складаць не збіраемся,”* – кажа Андрэй.


Фота: Белсат

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

Выпускніца мастацкай вучэльні *Вікторыя Багдановіч*, якая атрымала 15 сутак за ўдзел у адным з жаночых маршаў, замалявала дэталі побыту ў Баранавіцкім ізалятары №6. Усе малюнкі з каментарамі мастачкі – у матэр'яле Нашай Нівы

Шоўмен і вядоўца *Дзмітрый Шэпелеў*, які цяпер жыве ў Расіі, сябра збітага *Максіма Харошына*, упершыню выказаўся наконт падзей у Беларусі.
*"Два месяцы мае сябры, іх жонкі і дзеці жывуць, азіраючыся па баках, ці не за імі прыйшлі супрацоўнікі ў цывільным. Хаваюцца па падворках, ратуючыся ад пераследу. Хаваюцца ад святла-шумавых гранат. Вызваляюць таварышаў з турмаў. Яны плацяць гэтую цану за новае жыццё ў новай краіне, у Беларусі, якую яны заслугоўваюць, вольную ад страху і дыктатуры"*, – напісаў Дзмітрый у сваім Instagram.



# 5. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ




**У ПАНЯДЗЕЛАК, 12 КАСТРЫЧНІКА, МУЗЫКІ ПРАВЯЛІ КАНЦЭРТ У ПАДТРЫМКУ НЕЗАЛЕЖНЫХ СМІ.**

На мерапрыемстве выступілі:
*J: Морс, Паліна Рэспубліка, INTELLIGENCY, Павел Аракялян, Nizkiz.*

Запіс канцэрта можна паглядзець па спасылцы

## ШТОДЗЁННЫЯ ДВАРАВЫЯ КАНЦЭРТЫ Ў ПАДТРЫМКУ МІКРАРАЁНАЎ








Фота: Наша Ніва,



# 6. САЛІДАРНАСЦЬ МІЖНАРОДНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

**14 КАСТРЫЧНІКА СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ СУСТРЭЛАСЯ З ФЕДЭРАЛЬНЫМ ПРЭЗІДЭНТАМ ГЕРМАНІІ ФРАНКАМ-ВАЛЬТЭРАМ ШТАЙНМАЕРАМ.**



У верасні пісьменніца, Нобелеўская лаўрэатка, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра і сябра Каардынацыйнай Рады, выехала ў Германію.
Яна прызналася, што не адчувае сябе ў бяспецы дома, але не плануе заставацца ў эміграцыі.



16 кастрычніка Міністр замежных справаў Германіі *Гайка Маас* сустрэўся са спадарыняй Алексіевіч.

Сярод іншага, яны таксама абмеркавалі сітуацыю ў Беларусі.

Фота: belarus.liveuamap.com; twitter.com




Фота: YouTube

**СЁЛЕТА МНОГІЯ ЗАМЕЖНЫЯ МУЗЫКІ СТВАРЫЛІ КАМПАЗІЦЫІ Ў ПАДТРЫМКУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ.**

**НЕКАТОРЫЯ З ІХ МОЖНА ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА СПАСЫЛЦЫ.**

Гэты матэрыял падрыхтаваны ў супрацы *Беларускім ПЭН-цэнтрам* і *Беларускім фондам культурнай салідарнасці*.







Інфармацыйны партнёр - партал TuzinFM.by




**КАНТАКТЫ**

E-mail: BFKS2020@protonmail.com
Telegram: @bel_culture
Facebook: https://www.facebook.com/bcsfbel

**ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

